№ 205 (787)
Пятніца, 5 лістапада 1999 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай і рускай мовах
Перыядычнасць —
5 разоў у тыдзень
Кошт: у кіёсках і крамах — 25000 руб.,
па падпісцы — 18000 руб.,
у індывідуальных гандляроў — свабодны.

# Народная Воля

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*

Якуб Колас





**З новых вершаў**

*Генадзь БУРАЎКІН*

## Здрайцам Беларусі

*Ну што ж,
Прыходзіць час
Ля новай дамавіны
І вам ужо дзяліць
Чыны і медалі
За тое,
Што даўно
Схілілі нізка спіны
І гонар свой былы
Так проста прадалі.*

*Вы думаеце,
Мы не чуем і не бачым,
Як прадзедам на здзек,
На радасць прыбышу
Вы з пенай на зубах
І з віскатам сабачым
Ірвеце беларускую душу?*

*Забылі лёгка вы
І продкавы магілы,
І праведную кроў,
І матчын запавет,
Апосталаў сваіх
І нават —
Божа мілы! —
Гаворку землякоў,
З якой прыйшлі вы ў свет.*

*Нібы кашулю зрэбную, старую,
Радзіму вы гатовы
Кінуць у лабаз...
Вы думаеце,
Мы вам некалі даруем?
Панове,
Вы ўсё ж дрэнна ведаеце нас...*

***

*Чакаю светлага наступства,
Як рэдкіх зорак уначы,
А навакол так многа глупства,
Хоць крыкам на ўвесь свет крычы.*

*Так многа хамства і паганства,
І балбатні,
І мітусні,
І п'янства дзікага,
І чванства,
І інтрыганства,*

*І хлусні...*

*І ўсё на самы верх імкнецца,
Да ўлады рвецца напрасткі,
І праўды вырывае лейцы
І страх наймае ў ямшчыкі...*

*Я ў гневе праведным згараю,
Кручуся ў нераце прычын,
А не магу ўсю гэту зграю
Хаця б на міг перамагчы...*

***

*Даўнюю песню слухаю ў адзіноце,
Плёнку старую пракручваю
зноў і зноў,
Быццам хачу на высокай,
шчымлівай ноце
У памяць вярнуць хоць бы нешта
з забытых сноў.*

*Нам тады грэчка здавалася боскаю
маннаю,
Панскімі ўборамі — купленыя
брылі...
Час нас абдурваў,
І самі сябе мы падманвалі.
Але якія шчаслівыя ўсё-ткі былі!*

*Пераборы гармонікаў,
Стрыманы сум,
Што прынеслі салдаты з вайны —
Недзе на сподку душы
Патаемна і тоненька
Рэха дзіцячых садоў
Залатою пчалою звініць...*

*Іншыя песні цяпер я ў ваколіцах
слухаю,
Іншаму часу павагу сваю аддаю.
Ды не хачу забываць нізавошта
Аглухлую,
Ціхую,
Сумную,
Родную песню маю...*

***

*Ціхія ўздыхі гітар,*

*Паслухмяныя, мілыя дзеткі,
Акуратненькія, як у кіно.
Вас я ўсё ўспамінаю гэткіх,
Хоць і выраслі вы даўно.*

*Я ў сваёй мітусні і не ўгледзеў,
Як вы лёгка набралі разгон,
Маладыя мае суседзі,
Дзеці новых, няўтульных дзён.*

*Што ж вы сталі так хутка бякамі*

*І прыслужваеце рублю,
Засялілі двары сабакамі,
Утапталі кветкі ў зямлю?*

*Вундэркінды,
Акселераты —
Папрыладжваліся аднак...
Дзе тут час,
Дзе тут мы вінаваты,
Дзе тут заўтрашняй
злыбеды знак?*

***

*Ад ранку ў лесе поўна грыбнікоў —
Прастор гудзе,
Нібы святочны хорам.
На ўсіх
Не тое што баравікоў,
Але не хопіць нават мухамораў.*

*Вялізны кош бязлітасна пусты,
Хоць бы карэньчык зрэзаны —
навокал...
Усе паляны,
Сцежкі
І кусты
Прасвечаны старанна хцівым
вокам.*

*Але няма радовішча грыбоў,
Што высыпалі шчодра
ва ўспаміне, —
Ні пад бярозай,
Ні каля дубоў,
Ні на прыгорку,
Ні ў балацявіне.*

*І толькі недзе ўжо на схіле дня,
Як ордэн за настойлівасць,
На ўзмежку
Шчаслівчык зможа стомлена
падняць
Крамяную старую сыраежку.*

***

*Найвышэйшыя сілы
Нашы зоркі звялі
На святым небасхіле
І на грэшнай зямлі.*

*І сцяжынкаю зорнай
Лёсы побач пайшлі
І па небе прасторным,
І па цеснай зямлі.*

*Нам ніколі замнога
Не было на дваіх
І кахання зямнога,
І трывог незямных.*

*І жыцця прыбаўляе,
Незычліўцам на зло,
Таямніца былая —
Нашых зорак святло.*

## А.Севярын: працэс перамоў паміж уладай і апазіцыяй "падвергся рызыцы"



Падводзячы вынікі свайго чатырохдзённага знаходжання ў Мінску, кіраўнік рабочай групы па Беларусі Парламенцкай асамблеі АБСЕ (ПА АБСЕ) Адрыян Севярын адзначыў, што ён "сур'ёзна заклапочаны значным пагаршэннем сітуацыі ў галіне правоў чалавека ў Беларусі ў параўнанні з апошнім візітам у ліпені 1999 года". "На маю думку, такое пагаршэнне не толькі зрабіла немагчымым пачатак перамоў паміж уладамі і апазіцыяй, але і падвергла рызыцы ўвесь гэты працэс", — заявіў А.Севярын на прэс-канферэнцыі ў Мінску.

Паводле ягоных слоў, "мэтай візіту была ацэнка развіцця сітуацыі ў галіне правоў чалавека зараз, а таксама агульнага палітычнага клімату ў краіне ў святле маючага адбыцца саміта АБСЕ, які пройдзе ў лістападзе ў Стамбуле". Сп.Севярын паведаміў аб тым, што падчас візіту ён сустракаўся з прадстаўнікамі як афіцыйных улад, так і палітычнай апазіцыі, трэцяга сектару, сем'ямі арыштаваных паводле палітычных матываў, прадстаўнікамі прэсы, абедзвюх экспертных груп па СМІ і мітрапалітам Мінскім і Слуцкім Філарэтам, патрыяршым экзархам усяе Беларусі. Адрыян Севярын канстатаваў: "Нягледзячы на ўскладненне з моманту апошняга візіту ў ліпені, я бачыў гатоўнасць працягваць дыялог як з боку апазіцыі, гэтаксама з боку ўрада".

Спыніўшыся на сустрэчах з афіцыйнымі асобамі, у прыватнасці, з віцэ-прэм'ерам — міністрам замежных спраў Беларусі Уралам Латыпавым і памочнікам прэзідэнта Міхаілам Сазонавым, кіраўнік рабочай групы па Беларусі падкрэсліў, што асноўная іх мэта — "ініцыіраваць канкрэтныя захады ўзаемнага даверу, якія жыццёва неабходныя для пачатку перамоў". На думку А.Севярына, такія захады ўключаюць вызваленне з-пад варты тых, хто быў затрыманы паводле палітычных матываў, уключаючы Міхаіла Чыгіра і Мікалая Статкевіча; заканчэнне адміністрацыйных пераследаў недзяржаўных СМІ; эфектыўнае расследаванне па справе зніклых палітычных дзеячаў.

Пытанням падрыхтоўкі да палітычнага дыялогу ўлад і апазіцыі, а таксама да маючых адбыцца праз год парламенцкіх выбараў была прысвечана сустрэча Аляксандра Лукашэнкі з кіраўніком рабочай групы Парламенцкай Асамблеі АБСЕ па Беларусі Адрыянам Севярынам, якая адбылася 30 кастрычніка. На ёй прысутнічаў таксама кіраўнік Кансультатыўна-назіральнай групы АБСЕ ў Мінску пасол Ханс-Георг Вік.

Падчас сустрэчы Лукашэнка запэўніў румынскага дыпламата ў тым, што "дыялог працягваўся і будзе працягвацца". Адначасова ён прапанаваў прадставіць ПА АБСЕ дакументы, якія сведчаць пра тое, хто спрабуе сарваць гэты дыялог. "Я вам магу іх прадставіць з усімі прозвішчамі, у тым ліку і вашымі", — падкрэсліў ён. Наогул, на думку Лукашэнкі, "апазіцыі гэты дыялог не патрэбны, нават калі будзе найшырокім чынам асвятляцца ў сродках масавай інфармацыі". Сам жа ён гатовы весці публічны дыялог з прадстаўнікамі апазіцыйных партый па ўсіх праблемах.

"Але,— заявіў Лукашэнка,— калі гэты дыялог хтосьці спрабуе выкарыстаць для таго, каб уздыбіць тут краіну, гэтага таксама мы дапусціць не можам".

Што тычыцца маючых адбыцца ў наступным годзе парламенцкіх выбараў, то, па словах Лукашэнкі, Беларусь правядзе іх па цяпер дзеючай Канстытуцыі "больш дэмакратычна, як у любой заходняй дзяржаве". "Мы не хочам нарывацца на якіясьці непрыемнасці і потым перад кімсьці апраўдвацца, — заявіў А.Лукашэнка. — Але я яшчэ раз падкрэсліваю: той, хто сёння ўжо спрабуе сказаць аб тым, што ў Беларусі выбары недэмакратычныя будуць і ставяць пад сумненне прызнанне гэтых выбараў, я хачу сказаць, што мы такіх людзей не разумеем".

**Уладзімір ГЛОД, Алег САКАЛОЎ, БелаПАН.**

## Анатоль Лябедзька прапануе Прэзідыуму Вярхоўнага Савета стварыць уласную камісію па расследаванні падзей 17 кастрычніка

Дэпутат Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь 13-га склікання Анатоль Лябедзька звярнуўся да Прэзідыума ВС з прапановай стварыць спецыяльную камісію па расследаванні падзей 17 кастрычніка, калі падчас правядзення "Маршу Свабоды" адбыліся сутычкі ягоных удзельнікаў і супрацоўнікаў праваахоўных органаў.

На думку парламентарыя, маецца дастатковая колькасць як відэаматэрыялаў, так і паказанняў сведкаў, паводле якіх можна аднавіць рэальную карціну таго, што здарылася ў той дзень на перакрыжаванні вуліц Пуліхава і Першамайскай. Такая камісія магла б падрыхтаваць аб'ектыўнае заключэнне, лічыць А.Лябедзька. У гутарцы з карэспандэнтам БелаПАН Анатоль Лябедзька паведаміў, што яшчэ раней ён звярнуўся з лістом на імя кіраўніка Беларускай тэлерадыёкампаніі Р.Кіселя, у якім звяртае ягоную ўвагу на "аднабакасць і тэндэнцыйнасць" асвятлення электроннымі СМІ "Маршу Свабоды". Парламентарый гатовы выкласці з экрана і па радыё сваё бачанне таго, што здарылася, а таксама дыскусіраваць на гэтую тэму з любымі субяседнікамі.

**Уладзімір ГЛОД.**

**Острый взгляд**

*Вячеслав ОРГИШ,*
*доктор философских наук*

## Кремлевский пасьянс

*Узникам совести председателю БСДП "Народная Грамада" Николаю СТАТКЕВИЧУ и депутату Верховного Совета 13-го созыва Валерию ЩУКИНУ посвящается*

*Что бы Лукашенко ни притащил в Москву, какое бы приданое ни привез, роль, которую ему готовы отводить кремлевские хозяева на кремлевских пирах, — это роль подающего. Но А.Г. не желает служить российскому отечеству в такой роли (я не собираюсь быть "мальчиком для битья", хорохорится он). Его интересует только первый номер, который кремлевские ключники, по всему видать, предназначают не ему. Из этого и вырастают все недоразумения между минской и кремлевской командами интеграторов.*

### На всякого мудреца довольно простоты

Российские политики отказываются впустить Лукашенко в кремлевские палаты. Но у них не только не пропал, а даже усилился интерес к его приданому. Российская политическая элита использовала и стремится дальше использовать белорусскую "олухократию" с максимальной выгодой для себя. Основное, чего добивается российский истеблишмент во взаимоотношениях с Минском, — это дальнейшее втягивание Беларуси в орбиту российского хозяйственно-сырьевого и политического влияния с тем, чтобы этот процесс завершился ее полной инкорпорацией. Делая последнюю экономическую проработку сроков этой операции, российская сторона сочла целесообразным для себя растянуть ее до 2005 года.

В отдалении сроков объединения Лукашенко видит главную опасность для своей политической карьеры и своих далеко идущих замыслов. За пять лет он не только выпустит интеграционную инициативу из рук, но лишится той социальной базы, опираясь на которую он творит свою восточную политику. Более того, через пять лет, если сохранятся нынешние темпы деградации белорусской экономики и падения уровня жизни населения (а иных тенденций не просматривается), ему придется не объединяться с Москвой, а сдаваться ей на любых условиях, лишь бы избежать праведного гнева белорусов.

Кремль это хорошо понимает. Чем позже объединение случится, тем дешевле обойдется услуга Лукашенко. Поэтому тактика кремлевских политиков обратная тактике Минска. Никаких блицкригов, время работает на нас. А.Г. никуда не денется, чем дальше, тем сильнее будет его желание спрятаться под крыло российского двуглавого орла.

На такой расклад российского политического пасьянса указывают, в частности, последние шаги Кремля, связанные с дальнейшим продвижением союзного договора, и нервозная реакция на них со стороны Лукашенко. Администрация российского президента 27 сентября сообщила о намерении опубликовать свой проект союзного договора. Ответная реакция Лукашенко, последовавшая 30 сентября, оказалась чрезвычайно резкой и очень показательной. Интегратор назвал этот проект "посмешищем" и заявил о том, что он ничем не отличается от предыдущего. Поскольку из него удалены предложения белорусской стороны, он публиковать и обсуждать его у себя (то есть в Беларуси) не намерен.

Однако, что же на самом деле вызвало праведный гнев А.Г., точнее, какие такие положения проекта договора российская сторона вычеркнула, из-за которых он так ощетинился? Почему припадок высочайшего гнева внезапно сменился снисходительным согласием опубликовать московский проект союзного договора?

Прежде всего, к великому разочарованию Лукашенко, российская сторона оказалась не столь простодушной, как это ему и его советникам представлялось. Кремлевские игроки сами с усами, они быстро раскусили истинный смысл предложений Минска о том, чтобы, не откладывая на потом, наделить белорусов и россиян одинаковыми избирательными правами на всей территории объединенного государства. Согласие Москвы на это было бы равносильно выдаче Лукашенко мандата на участие в российской президентской гонке 2000 года. Номер не прошел. Статья 14 опубликованного проекта союзного договора гласит: "Вопросы приобретения и утраты гражданства государств-участников регулируются их национальным законодательством". И баста!

Следующая наживка, на которую А.Г. пробовал поймать Кремль, была не такой грубой и примитивной. Минск предложил ввести в новом союзном государстве пост президента с полномочиями, которые покрывают полномочия высшей власти субъектов союза. При этом оговаривалось, что первым займет это кресло Ельцин, а Лукашенко походит вице-президентом (правда, курирующим экономический блок в правительстве). Таким путем кремлевская команда сумеет, мол, решить проблему 2000 года, связанную с окончанием полномочий Бориса Николаевича и необходимостью передачи власти в другие руки.

Однако этот вариант Москва тоже отвергла. Согласно ее собственному варианту, высшим органом союзного государства должен стать высший государственный совет, председательствовать в котором будет на ротационной основе один из глав государств-участников. Вероятно, Лукашенко мог бы удовлетвориться даже таким не вполне единоличным инструментом высшей власти в новой державе, если бы не одна принципиальная оговорка, содержащаяся в статье 36 проекта договора. Она оставляет тигра без зубов и когтей. В самом деле, на что может рассчитывать неукротимый волюнтаризм уже вошедшего во вкус авторитарных решений правителя, если в документе четко сказано: "Акты высшего государственного совета принимаются на основе единогласия государств-участников. Акт не является принятым, если одно из государств-участников высказалось против его принятия"?

### Дружба дружбой, а табачок врозь

Очевидно, что на данном этапе попытка Лукашенко посредством заключения союзного договора Беларуси с Россией легализоваться и закрепиться на вершине власти в более масштабной государственно-политической системе терпит неудачу.

Между тем международная общественность давно оценивает белорусского руководителя как политика-коллаборациониста, беззастенчиво торгующего национальными интересами белорусского государства. За период с 1994 года Беларусь скатилась к однобокому и недальновидному курсу почти полной экономической и политической ориентации на восточного соседа. Вместо рыночного реформирования народно-хозяйственного комплекса, диверсификации сырьевых источников и рынков сбыта готовых изделий экономика страны увеличила зависимость от российской нефти, газа, электроэнергии, потребительского рынка, технических кредитов.

Добиваясь сближения Беларуси с Россией Лукашенко, помимо личных политических целей, руководствовался желанием получить от российского правительства ряд экономических преференций, которые могли бы помочь снять часть острейших хозяйственных проблем в стране. Однако предложенный Москвой проект союзного договора не дает тех экономических выгод, на которые он рассчитывал. Белорусское правительство, давно приученное к дешевой российской кредитной сырьевой игле, уже не может справляться с хозяйственными проблемами, опираясь на внутренние возможности белорусской экономики. Поэтому лукашенковская дипломатия второй важнейший приоритет в торгах с Москвой вокруг положений союзного договора видела в том, чтобы поскорее добиться равных условий деятельности хозяйствующим субъектам обеих стран.

В случае принятия россиянами этого условия белорусский потребитель российской нефти и газа, оплата которых образует основную статью расходов белорусской казны, платил бы за них столько же, сколько платит российский потребитель. Переход Беларуси к расчетам по внутренним российским ценам и тарифам означал бы, что российская сторона и впредь согласна давать дотации белорусской экономике, только в еще больших размерах. России, переживающей глубокий экономический кризис, усугубляемый значительными расходами на военную кампанию в Чечне и других горячих точках, пойти на такой шаг означало бы еще больше обострить дефицит государственного бюджета.

Поэтому Москва и в экономическом блоке союзного договора оставила Лукашенко при своих интересах. Ее позиция по меньшей мере прагматична: будем дружить нашими домами, но с "общаком" спешить не будем. Создание равных условий хозяйствующим субъектам она предложила отнести к 2001 году. Для Минска это означает, что еще как минимум в течение полутора лет ему придется довольствоваться прежними тарифами и ценами на энергоносители, которые хоть и ниже мировых, но все же отличаются от внутренних российских.

В свою очередь это означает, что провалы экономического курса Лукашенко станут для белорусов еще более ощутимы и болезненны. Не добившись от Москвы "холявы" в виде единых с Россией цен и тарифов на услуги и продукцию естественных монополий, Минск не сможет не только уменьшить дефицит белорусского бюджета, но даже сдержать его рост. Бездарность экономической политики верховной власти страны, ставшая основной причиной неэффективности белорусской экономики, будет и впредь давать знать о себе ростом инфляции и дальнейшим снижением жизненного уровня белорусского населения.

Задолженность за поставки энергоносителей, составляющая около 300 млн. долларов США, не только сохранится, но и приумножится. Российская экономическая удавка будет все туже затягиваться вокруг белорусской экономики. Для российских интеграторов усиление экономической зависимости Беларуси от России — это главная материальная предпосылка инкорпорации ее в Российскую империю. С этой точки зрения Лукашенко им интересен не своей любовью к России, не своими политическими инициативами, а своей экономической элементарностью и просчетами, которые позволяют российской стороне исподволь формировать условия для реализации своих далеко идущих планов в отношении "белорусского коридора".

Российского воробья на мякине не провести. Даже если Лукашенко добьется того, чтобы хозяйствующие субъекты Беларуси получили преференцию в виде внутренних российских цен на энергоносители, то все равно выигрыш от этого сведется на нет. Белорусская таможня к 2002 году должна будет перейти на унифицированный торговый режим в отношении третьих стран, соответственно уравняв свои таможенные ставки с российскими. В результате белорусская казна, сэкономив за счет дешевых нефти и газа, потеряет часть своих поступлений на таможне. Российская сторона заберет свое не мытьем, так катаньем.

Итак, в определенном смысле предложенный российскими визави Лукашенко проект союзного договора действительно выглядит для него "посмешищем". В нем нет и намека на сочувственное отношение к его доктрине интеграционного блицкрига. Кремлевские политики посмеялись над замыслами А.Г. самым откровенным образом. Их проект трактует процесс присоединения Беларуси к России с точностью до наоборот. В нем мало такого, что подает надежду на разрешение хотя бы в будущем личных политических амбиций шкловского охотника до кремлевских чертогов.

Тогда что же все-таки вынудило Лукашенко сменить гнев на милость и дать "добро" на публикацию московского проекта союзного договора? Об этом разговор в следующей статье.

*(Продолжение в следующем номере.)*

## Сообщение для прессы

3 ноября 1999 года группы экспертов по СМИ от правительства Беларуси и от Консультативного совета оппозиционных политических партий при посредничестве КНГ ОБСЕ продолжили в Международном образовательном центре в Минске консультации о доступе оппозиции к государственным СМИ.

Группу экспертов от правительственной стороны возглавлял Михаил Сазонов, группу экспертов от Консультативного совета оппозиционных политических партий — Михаил Пастухов. В качестве посредника выступал посол Ханс-Георг Вик, руководитель КНГ ОБСЕ в Беларуси.

По итогам консультаций стороны подготовили рабочий вариант Организационно-технических условий доступа политической оппозиции к государственным СМИ. Этот документ является приложением к Протоколу согласования условий доступа политической оппозиции к государственным СМИ на период подготовки переговоров между правительством и оппозиционными политическими партиями.

Следующая встреча экспертов запланирована на сегодняшний день, 5 ноября.

**Стоп-кадр**



## Дипломы выставки во Франции – у витебчан

Воспитанники студии современного искусства при витебской средней школе №25 приняли участие в конкурсе детского творчества "Контраст" во Франции. Их работы, представленные там, отмечены дипломами.

**На снимке:** *дипломанты выставки во Франции Вячеслав Пахолкин, Антон Войтеховский, Андрей Зайцев и их руководитель художник Александр Малей.*

**Фото Александра ХИТРОВА, БелТА.**

**Надвор'е**

5 і 6 лістапада — воблачнае з праясненнямі надвор'е, пераменная воблачнасць, без ападкаў. Месцамі — туман. Вецер паўднёва-ўсходні, 3—8 м/с. Тэмпература паветра ўначы -1...+4, удзень +5...+10.

**Пресс-конференции. О чем говорилось?**

## Ставка властей на запугивание оппозиции тюремным содержанием провалилась

Председатель Социал-демократической партии "Народная Грамада" Николай Статкевич, выпущенный 31 октября из следственного изолятора ГУВД Мингорисполкома, провел пресс-конференцию, на которой рассказал о подробностях своего содержания под стражей.

Как уже сообщалось, поздно вечером 17 октября 1999 года сотрудники ОМОН выбили дверь в штаб-квартире партии, схватили ее председателя Н.Статкевича и отвезли в Советский РОВД на допрос. Николай Викторович отказался давать показания без адвоката, и тогда Статкевичу объявили о применении к нему такой меры пресечения, как содержание под стражей, а затем отконвоировали на "Володарку". В знак протеста против антиконституционных действий властей Н.Статкевич объявил голодовку.

Поместили Николая Викторовича в десятиместную камеру №186, в которой к тому времени уже находилось 15 арестантов. Заключенные с пониманием отнеслись к такой форме борьбы, как голодовка, и выделили политическому арестанту персональную койку, хотя сами спали по очереди. Более того, через неделю готовы были объявить политическую голодовку солидарности. Администрация следственного изолятора вынуждена была срочно переводить Н.Статкевича в двухместную камеру №36.

Это — вторая голодовка Николая Статкевича в местах лишения свободы. Николай Викторович рассказал журналистам, что, в отличие от окрестинского спецприемника, в СИЗО проводить голодовку значительно легче, так как есть возможность пользоваться кипяченой водой. За 14 дней голодания Николай Васильевич потерял 10 килограммов веса.

Тюремные власти пытались оказать давление через сокамерников, угрожали применить принудительное кормление, но сломать лидера социал-демократов так и не смогли. Через две недели вынуждены были выпустить Николая Статкевича под подписку о невызде.

Опасаясь массовых акций при встрече политического узника у ворот тюрьмы, вывезли его на машине "скорой помощи" и доставили прямо в квартиру. Вообще-то в этом нет ничего плохого, только как-то не верится в бескорыстную заботу властей об узнике. Но в любом случае — это уже по-человечески. Вспомним, как совсем недавно ослабленного от голодовки Виктора Гончара тайно вывезли из приемника-распределителя и при минусовой температуре в одной рубашке выбросили из машины в подворотне почти в километре от дома. А присутствующий при этом милицейский врач с чувством выполненного перед властями долга поехал с омоновцами обратно.

На вопросы журналистов о причинах столь внезапного освобождения из-под стражи Николай Статкевич ответил:

1. У режима нет иного выхода из конституционного тупика, кроме как переговоры с оппозицией, то есть с теми, кто имеет иную, чем нынешняя власть, точку зрения.

2. Очередной обвал белорусского рубля, вызванный дальнейшим развалом экономики и безудержной работой банкнотопечатающего станка.

3. Ноябрьский саммит ОБСЕ, появление на котором Александра Лукашенко несовместимо с наличием в белорусских тюрьмах лиц, арестованных по политическим мотивам.

3. Солидарность с политическими арестованными всей прогрессивной белорусской общественности и международных организаций.

4. Стойкость политических деятелей и участников уличных акций, репрессированных после событий 17 октября 1999 года.

5. Добытые спецструктурами режима сведения о готовности оппозиции к широкомасштабной листовочной акции за освобождение политзаключенных.

**Валерий АЛЕКСЕЕВ.**

